ПЕРАДВЫБАРНАЯ ТРЫБУНА

*Іван Капыловіч*

# УЗНАВІМ СВЯТЫНІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Вядома, кожны кандыдат у народныя дэпутаты будзе імкнуцца заваяваць на свой бок паболей выбаршчыкаў усімі праўдамі і няпраўдамі. І як тут быць, як зрабіць правільны выбар? Найперш трэба разабрацца, што за асоба, з беларусаў ці не, якая ў таго ці іншага кандыдата біяграфія. Я ні ў якім разе не заклікаю да расізму ці нацыяналізму. Гэтага ў Беларусі ніколі не было, няма і не будзе. Любы чалавек любой нацыянальнасці на нашай Беларусі жыве і адчувае сябе роўным, незалежным, як і мы, беларусы. Але ж гэта вялікая памылка і падман, што цяпер у пашпарце нашай суверэннай, незалежнай Беларусі будзе адсутнічаць графа «нацыянальнасць». Чаму мы быццам саромеемся таго, што мы -- беларусы? Каму гэта выгадна? Хто мы такія без нацыянальнай прыналежнасці? Тутэйшыя? Людзі без роду і без племені? Іваны бязродныя? Словам, вось такі ў нас суверэнітэт, дзе беларусы, чые продкі адстойвалі сваю зямлю ў цяжкіх, кровапралітных войнах і бітвах, як бы знікнуць, растворацца, ператворацца ў нейкую бязлікую касмапалітычную масу.

Мы павінны цвёрда і непахісна адстойваць нашу родную беларускую культуру. Без яе развіцця, без доступу да яе здабыткаў шырокіх слаёў насельніцтва немагчымы ніякія рэформы, ніякі прагрэс у эканоміцы. Гэта трэба разумець і не забываць. Між тым беларускамоўныя часопісы, сапраўдныя чыстыя крыніцы,з якіх п'юць усе, аснова асноў нашай культуры, знаходзяцца ў такіх невыносных абставінах, што не сёння-заўтра перастануць існаваць. Замест іх застануцца дэтэктывы, амерыканская ды іншая заходняя маскультура з яе насіллем, забойствамі, парнухай. Таму пакуль яшчэ не позна, нашы ўлады павінны адумацца, не даць ім загінуць. Трэба не забываць, чаму мы, тыя, хто выйграў апошнюю вайну, прайгралі мір. Бо культура ў Савецкім Саюзе заусёды забяспечвалася па астаткаваму прынцыпу. А Захад і Амерыка не шкадавалі долараў на вядзенне ідэалагічнай вайны супраць нас, умела прапагандавалі і ўбівалі нам у галаву тэзіс аб нейкай, як цяпер зразумела міфічнай, пераваге іхняга ладу жыцця. Вось калі спыніць Расія пампаваць свае прыродныя рэсурсы на той самы хвалёны Захад, то ён загіне ў адначассе. Але ж у тым і бяда, што пасля Сталіна не было ніводнага сапраўднага кіраўніка, які б цвёрда адстойваў інтарэсы народа, не даваў разгону міжнароднай касмапалітычнай мафіі, якая пранікла і паразіла ўсе сферы жыцця.

Мы павінны падтрымаць школы, ВНУ, не звужаць, а, наадварот, пашыраць сярэдняе і вышэйшае бясплатнае навучанне, бо толькі ў гэтым выпадку мы зможам усебакова развівацца і не адставаць ад перадавых краін свету. Іншая справа, што ў ВНУ, аспірантуры і дактаратуры павінны трапляць людзі таленавітыя, што хочуць служыць сваёй Айчыне, а не тыя, хто глядзіць, каб паболей уварваць ды падацца ў эміграцыю, туды, дзе больш салодкі пірог.

Мы не павінны згортваць медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, якое было дасюль. За гады так званых рэформаў нашы бальніцы, паліклінікі даведзены да галечнага стану, а таму, аздараўліваючы эканоміку, трэба выдзяляць на медыцыну столькі сродкаў, колькі неабходна,каб нашы бальніцы, паліклінікі і аптэкі былі забяспечаны сучаснымі лекамі і абсталяваннем.

Сярод тых, хто вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі, вядома, людзі розных прафесій. Нямала сярод іх і прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Як ставіцца выбаршчыкам да іх? Пытанне не такое ўжо і рытарычнае. Хіба ж можна забыць, скажам, пачатак кастрычніка 1993 года, у часе якога, бы ў люстэрку, выразна праявіліся адносіны кожнага да таго, што адбывалася тады ў Маскве? Хіба мы не помнім імёны і прозвішчы тых артыстаў, кампазітараў, пісьменнікаў, журналістаў, вучоных, хто падпісваў сумесныя заявы ў друку з патрабаваннямі да прэзідэнта Расіі разграміць Вярхоўны Савет Расіі, які, дарэчы, быў законна абраны народам, разграміць, паводле слоў прыхільнікаў пагромаў, чырвона-карычневую заразу? На жаль, і ў нас, у Беларусі, знайшліся такія, хто слаў Ельцыну тэлеграмы, лісты з патрабаваннямі дзейнічаць бязлітасна і рашуча.

Я ведаю многіх пісьменнікаў асабіста, добра знаёмы з іхняй творчасцю. Так, сярод іх ёсць па-сапраўднаму таленавітыя майстры слова ад Бога. Мне ў іх ёсць чаму павучыцца. Але ў той жа час я ніяк не магу пагадзіцца з той грамадзянскай пазіцыяй, якую займаюць некаторыя з іх.Іхняя грамадзянская пазіцыя поўнасцю выражаецца словамі «мая хата з краю». Чаму наша інтэлігенцыя менавіта такая? Мо і праўда ў гэтым вінаваты дзесяцігоддзі таталітарызму, калі ўсякая ініцыятыва, самастойнасць, шчырасць былі не ў цане, душыліся ў зародку? А праваслаўе, якое было захавальнікам духоўных скарбаў нашага народа, разгрămілі касмапалітычныя бальшавікі. Тыя самыя душагубы-людаеды, імёнамі якіх аж да сягонняшняга дня называюцца вуліцы, гарады, вёскі. Возьмем нашу родную сталіцу Мінск. Колькі тут чужых, што не маюць ніякага дачынення да нашай гісторыі назваў -- Свярдлова, Валадарскага, Розы Люксембург, Карла Лібкнехта, Гая, Кнорына... Язык ледзь паварочваецца, не хоча вымаўляць гэтае нам усё чужое, не патрэбнае, навязанае сілком, паміма нашага жадання.

Сённяшняя творчая інтэлігенцыя чамусьці назвала цяперашні час адраджэннем. Я не разумею, аб якім адраджэнні ідзе размова? Хіба ў магазінах патанелі харчаванне, адзенне? Хіба беларускі народ стаў жыць лепш? Ці мо адбыўся дэмаграфічны ўзрыў? Наадварот. Нашы дзеці сёння ў такім бядотным становішчы, як ніколі. Хіба можна забыць той час, калі ў школах былі ці бясплатныя, ці танныя абеды для школьнікаў? А сёння гэтага няма, дзеці недаядаюць, большасць з іх хворыя хранічнымі хваробамі, малакроўныя ад недаядання, няякаснага харчавання. І тут пакуль нічога не мяняецца, адны размовы ды палітыканства.

Сёння ўсе простыя людзі згадваюць так званыя застойныя часы як лепшыя гады свайго жыцця, бо менавіта тады мы ўсе маглі атрымаць бясплатна кватэру, у магазінах хапала хай не далікатэсаў, але ад танных прадуктаў ламіліся прылаўкі, адзення айчыннай вытворчасці было хоць заваліся, пенсіянеры на пенсію маглі жыць бязбедна, інваліды ці атрымлівалі бясплатна, ці па льготнай цане аўтамабілі, бензін каштаваў капейкі... А сёння кожны з нас ледзь зводзіць канцы з канцамі. Зарплаты і пенсіі ледзь-ледзь хапае на тое, каб не памерці з голаду ды заплаціць за кватэру. А пра тое, каб набыць новы касцюм, аўтамабіль, мэблю, няма ніякай размовы. Тое даступна сягоння толькі камерсантам, прадпрымальнікам ды нейкім, як кажуць, «новым рускім», якія жыруюць на бядоце ды няшчасці нашага замардаванага народа. Хіба ў нас ёсць чэсныя прадпрымальнікі? Большасць з тых, хто разбагацеў цяпер, нажылі свае капіталы на перапродажы таго, што было выраблена, выпушчана на дзяржаўных прадпрыемствах. А яшчэ з'явіліся фірмы па разліву алкагольных напіткаў. На мой погляд,іх з'яўленне не толькі амаральны фактар, але і злачыннасць. Спойвалі народ камуністы, якія досыць паспяхова рабілі свой бюджэт за кошт алкаголю ў неабсяжных аб'ёмах, а цяпер гэтую справу паспяхова працягваюць «дэмакраты».

Дэмакраты крычаць аб тым, што на Беларусі, маўляў, не ідуць рэформы. А дзе, скажыце, яны ідуць? У Расіі? Але хіба можна назваць рэформамі тое, што прамысловасць там амаль спынена, сельская гаспадарка пакладзена на лапаткі і не сёння-заўтра ў такой багатай краіне на зямлю, на прыродныя рэсурсы можа пачацца голад?

Што такое рэформы? Гэта перш за ўсё паляпшэнне існуючага становішча ў эканоміцы.Аб якім паляпшэнні можна гаварыць сягоння?

А хіба можна назваць адраджэннем тое, што смяротнасць у Беларусі перавысіла ў 1994 годзе колькасць народжаных на 21 тысячу чалавек? А ў застойныя часы наша насельніцтва стабільна павялічвалася штогод на 64 тысячы чалавек. Жанчыны сягоння не хочуць нараджаць толькі таму, што няма як утрымліваць сям'ю, бо і на сябе самога нельга зарабіць столькі, каб хапала. Беларуская нацыя сягоння з-за так званых рэформаў і экалагічных бедстваў пад пагрозай вымірання. З чарнобыльскай бядой, як і з тым крызісам, што ахапіў усе бакі жыцця грамадства, нам самім наўрад ці справіцца. Тут патрэбен саюз усіх тых рэспублік, якія раней уваходзілі ў СССР. Ніхто нікога не заве назад, да СССР. Ды такое і немагчыма, бо вядома, што ў адну і тую ж раку нельга ўвайсці двойчы. Раз СССР перастаў існаваць, значыць, на тое ўсё ж былі прычыны. Але разыходзіцца назаўсёды народам, якія раней складалі адну вялікую дзяржаву, справа бесперспектыўная.

Я добра ўсведамляю, што маю пазіцыю падзяляюць далёка не ўсе мае калегі-пісьменнікі, бо яны бачаць Беларусь поўнасцю ізаляванай ад Расіі. Аб гэтым я ўжо не раз пісаў і заяўляў у друку,і гэтая мая пазіцыя непахісная, бо я глыбока перакананы: калі б нашы «незалежнікі» па-сапраўднаму жадалі б дабра беларускаму народу, Беларусі, то яны паводзілі б сябе зусім інакш. Мне ўсё гэта зразумець цяжка, бо ў час панавання камуністаў многія з тых, хто сёння «дэмакрат» і незалежнік, займалі кіруючыя пасады, жылі нашмат багацей і лепш, чым я, інвалід першай групы, чым усе простыя людзі, бо менавіта яны, а не я, радавы пісьменнік, якіх, дарэчы, у нашым творчым Саюзе большасць, мелі доступ да спецпаліклінік, спецсанаторыяў, спецмагазінаў, яны атрымлівалі раскошныя кватэры ў прэстыжных раёнах сталіцы, каталіся на казённых «Волгах», як на сваіх уласных. Яны і сёння не разгубіліся, сарыентаваліся досыць хутка. Учарашняя наменклатура ЦК КПБ ад нашага Саюза сёння дружна перасела на канька дэмакратыі, і як запраўляла, задавала тон, то гэтак жа і працягвае. Гледзячы на ўсё гэта, міжвольна дзівішся, якія ж яны спрытнюгі, як, аказваецца, дзеля таго, каб быць каля сытага карыта, можна лёгка маніпуліраваць такімі святымі паняццямі, як чалавечы гонар, годнасць і сумленне. Я ж у адрозненне ад іх абіваў парогі ў застойныя часы розных уладных інстанцый, каб дабіцца хоць па льготнай цане «Запарожца» з ручным кіраваннем, гадамі пісаў ва ўсе выканкамы, каб выбрацца з цеснай, маленькай кватэркі, бо мне, апроч усяго неабходнага, у кватэры трэба было мець трэнажоры, бо без іх мне, як без паветра, без іх я і сягоння застаўся б прыкаваным да ложка. Я ў адрозненне ад сытых і заможных ніколі не быў ні ў камуністах, ні ў анархістах, ні ў якіх іншых партыях. Мне няма за што раскайвацца, маё сумленне чыстае перад Богам і людзьмі. Я даў згоду балаціравацца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі па 250-й Скарынінскай выбарчай акрузе Савецкага раёна Мінска. У адрозненне ад камерсантаў, начальнікаў розных рангаў, якія таксама прэтэндуюць на дэпутацкія мандаты, я не магу нічога абяцаць. Ці не надакучылі выбаршчыкам гэтыя абяцанкі-цацанкі, якія пад час выбараў сыплюцца без меры? Хіба мы ўжо забыліся, як нам абяцалі на самым высокім узроўні забяспечыць кожнага асобнай кватэрай да 2000 года? А яшчэ былі харчовыя праграмы, пяцігодкі якасці... Урэшце, мы, мабыць, яшчэ не забыліся, якія абяцанні даваў у час сваіх выбараў наш прэзідэнт. Выканаў ён іх? Так што не верце таму, хто абяцае, бо ён ілжэц.

Урэшце, маім выбаршчыкам, напэўна, будзе цікава ведаць адказ і на такое пытанне, чаму я ўсё ж вырашыў балаціравацца кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета? Мой бацька, Капыловіч Іван Платонавіч, патомны селянін-паляшук, у час вайны разам з маці змагаліся з ненавісным ворагам у мясцовым партызанскім атрадзе. Як толькі Чырвоная Армія вызваліла ад гітлераўцаў Палессе, бацька быў мабілізаваны. Ён загінуў у самым канцы вайны -- 14 сакавіка 1945 года і пахаваны ў брацкай магіле ў Памеранії. Загінулі на той вайне і чатыры маіх родных дзядзькі. Дзеля чаго яны паклалі свае галовы? Няўжо дзеля таго, каб мы сягоння гібелі ў холадзе, голадзе, нястачы? Я лічу, што павінен, абавязаны абараніць тую справу, за якую змагаліся мой бацька і мае родныя дзядзькі, увесь беларускі народ у час апошняй вайны, 50-годдзе Перамогі ў якой мы адзначым вельмі хутка.

Для тых, хто здабываў Перамогу, здаецца, у нас тое-сёе робіцца. Але ці ўсё? Ці магчыма сёння ветэрану на пенсію набыць лекі, нармальна харчавацца, апранацца? Адказ тут больш чым ясны. Таму Вярхоўны Савет новага склікання павінен прыняць такія законы, якія ўзвышалі б нашых ветэранаў, давалі магчымасць жыць ім так, як яны таго заслугоўваюць.

Беларускае таварыства інвалідаў, якое вылучыла мяне кандыдатам у дэпутаты, нямала робіць дзеля таго, каб найменей сацыяльна абароненая частка нашага насельніцтва магла нармальна жыць. За апошні час прыняты шэраг законаў, пастаноў, якія павінны былі б палепшыць узровень жыцця інвалідаў. На жаль, гэта не так. Законы і пастановы ёсць, а жыццё ў інвалідаў пагаршаецца з кожным месяцам. Добра, калі хто з гэтых людзей можа яшчэ працаваць і працуе, а калі не? То як на пенсію пражыць, набыць аўтамабіль з ручным кіраваннем, які далёка для іх не раскоша, як і за што зрабіць тэхнічнае абслугоўванне такому аўтамабілю, калі ён ёсць? За якія сродкі набыць бензін, што даражэе не па днях, а па гадзінах? Думаю, што на гэтыя пытанні сёння ніхто станоўча адказаць не зможа. Адказы на іх павінен даць Вярхоўны Савет новага склікання.

## ВОКРУГ СВЕТА

### Лодке -- 8000 лет

Крестьянин деревни Дуфуна в штате Иопе на севере Нигерии решил выкопать колодец, но неожиданно наткнулся на большую лодку, возраст которой 8 тысяч лет. Об этом сообщил в Лагосе генеральный директор Национальной комиссии музеев и памятников Нигерии Яро Гелло. «Это одна из важнейших находок, поскольку позволит больше узнать о людях, которые жили в те времена в этом ныне полупустынном районе», — подчеркнул он.

После тщательного анализа древесины установлено, что судно было построено в 6000 году до нашей эры.

Изучение находки позволяет сделать вывод, что озеро Чад в ту пору было значительно больше, чем сегодня.

### С вином и без диеты

Самой старой женщиной Земли, как утверждают в Бразилии, является не француженка Жанна Кальман, отметившая недавно свою 120-ю годовщину, а бразильянка Мариа ду Карму Жерониму. 5 марта с.г. этой долгожительнице из городка Кампанья в штате Сан-Паулу исполнилось 124 года.

Мариа находится в здравом уме и твердой памяти, не жалуется на здоровье и считает несправедливым то, что француженка, которая моложе ее на 4 года, занесена в Книгу рекордов Гиннесса. Самая древняя жительница Бразилии появилась на свет 5 марта 1871 года, о чем свидетельствует церковная метрика от 21 марта, когда ее крестили в церкви. Дона Мариа родилась в семье чернокожих невольников и оставалась рабыней вплоть до отмены рабства в Бразилии в 1888 году.

Сейчас она живет с приемной дочерью в скромном домике на окраине родного города. Все ее родственники умерли. Секрет ее долголетия, по словам самой Марии, заключается в глубокой религиозности и поклонении святой Сеньоре Апаресиде, покровительнице Бразилии. Старушка никогда не отказывается от вина, любит фейжоаду (блюдо, которое готовят из фасоли, шкварок и обрезков свинины) и никогда не соблюдала диету.

### Скарб пачатку нашай эры

Ва Уілтшыры на поўдні Англіі на ўчастку зямлі, якая належыць брытанскай кароне, знойдзены скарб, аб якім і марыць не маглі археолагі і гісторыкі, што займаюцца гісторыяй Рымскай імперыі.

Усё пачалося з таго, што археолаг-аматар Філіп Гейдж знайшоў тут тры гады назад дзесяць рымскіх бронзавых манет, якія літаральна валяліся пад нагамі паліцэйскага, што ахоўваў гэты раён. Не так даўно сюды была адпраўлена экспедыцыя супрацоўнікаў Брытанскага музея, якія ўжо знайшлі 1500 сярэбраных і 6 тысяч бронзавых манет, што датуюцца чацвёртым стагоддзем нашай эры. Такі скарб яшчэ ніхто не знайшоў не толькі ў Вялікабрытаніі, але і на тэрыторыі ўсёй былой Рымскай імперыі.

### Бардэлям не далі крэдытаў

Не ажыццявіліся планы тых, хто збіраўся адкрыць у Швейцарыі першы публічны дом.

Швейцарскія банкі адмовіліся фінансаваць гэта мерапрыемства па маральных перакананнях. У плануемай установе павінна было працаваць толькі 12 супрацоўніц, аднак банкіры жахнуліся ад этычнага боку гэтага праекта. Публічныя дамы ў Швейцарыі былі прыкрыты ў канцы XIX стагоддзя, аднак апошнім часам адзначаецца рост вулічнай прастытуцыі. «Бардэлі ніяк не ўпісваюцца ў нашу палітыку ў галіне крэдытаў», — заявіў прадстаўнік буйнейшага ў Швейцарыі «Юніон бэнк».

ФОТАПОГЛЯД

# Мір дому твайму

У маладосці Станіслава Пятроўна Луцэвіч працавала настаўніцай на Вілейшчыне. Калі пачалася вайна, адразу ж пайшла ў райваенкамат -- папрасілася на фронт. Была разведчыцай, сувязісткай. Закончыла вайну ў Германіі.

Цяпер былая франтавічка -- на пенсіі, жыве ў г.п.Узда.

**На здымку: Станіслава Пятроўна Луцэвіч з унукамі Наташай і Дзянісам.**

**Фота Міхаіла Булата**



ЧТО ГОВОРЯТ, ЧТО ПИШУТ...

# «Крестные отцы» на Тверской

**Американская газета о повадках российских миллионеров**

Эта сценка прямо из кинофильма «Крестный отец», самого популярного в Москве видеофильма.

Три черных бронированных «мерседес-бенц-600» с затемненными стеклами в сопровождении черных машин с синими мигалками, резко затормозив, останавливаются перед людным магазином «Куин оф Саба», одним из самых престижных в Москве.

Крепкие телохранители во всем черном с радиотелефонами начинают оттеснять в сторону пожилых женщин и детей. А через несколько секунд из машины выходит невысокий широкоплечий мужчина лет 30 с гладко зачесанными назад волосами. Две молодые женщины в мини-юбках и норковых манто, увешанные огромными бриллиантами, выпархивают из машин прямо в его объятия.

Все трое стоят несколько секунд, как будто ждут, чтобы на них обратили внимание, а затем входят, но только после того, как все остальные покупатели выдворены из магазина.

«Эти люди смотрят фильм «Крестный отец», смотрят, как одевается, как ведет себя герой кинокартины, и всячески стараются ему подражать, -- говорит со смехом импортер американской одежды Марк Берри. -- Они повторяют Чикаго 30-х годов».

Это просто самый обычный день на Тверской, где находятся модные магазины и где московские нувориши делают покупки.

По сообщениям печати, в Москве примерно 10 тысяч миллионеров. Отсутствие в России эффективной налоговой системы исключает возможность определить точное их число. По стилю жизни они превосходят большинство иностранцев, не говоря уже о среднем москвиче, который зарабатывает в месяц сумму, эквивалентную 100 долларам.

Милиция заявляет, что многие «новые русские» делают миллионы, покупая российское сырье, такое, как нефть, древесина и металлолом, цены на которые искусственно поддерживаются на низком уровне, и продавая это сырье за границей по более высоким ценам. Другой источник -- вымогательство денег у законного бизнеса, в том числе у многих совместных российско-американских предприятий, включая банки, гостиницы, рестораны и магазины одежды.

По данным Российского аналитического центра социально-экономических исследований, в стране существует около 150 преступных группировок, которые контролируют свыше 40 тысяч предприятий и компаний. Только в Москве действует 12 крупных групп организованной преступности, состоящие из русских, и множество менее крупных чеченских, грузинских и татарских синдикатов. И все они, по свидетельствам милиции, взимают с предпринимателей грабительские поборы, составляющие до 30 процентов их ежемесячной прибыли.

«Преступники выглядят честными и неглупыми людьми, и обычно их не отличить от настоящих бизнесменов, -- говорит судмедэксперт-психолог российского Министерства внутренних дел Евгений Галкин. -- Они гораздо больше склонны к насилию, чем старые преступники. Их ничем не остановить».

Многие из них живут в роскошных особняках из красного кирпича с гимнастическими залами, гаражами на две машины, строительство которых обходится в 600 тысяч долларов. Они разъезжают на «мерседесах» стоимостью 150 тысяч долларов, носят норковые манто, за которые платят по 18 тысяч долларов, и пьют дорогой коньяк в московском клубе «Ап энд даун».

«Для русских очень важно всегда покупать все самое модное и самое новое только потому, что это самое красивое, -- говорит Норберт Мефферт, сотрудник фирмы, которая является московским дилером «Мерседес-Бенц», одной из двух фирм, представляющих здесь эту компанию. -- Они «смотрят» руками, трогают машины и покупают. А расплачиваются тут же наличными».

33-летний Максим Игнатьев, директор-распорядитель представительства «Рибок» в России, гордится прогрессом в своей стране: "Те, кто руководил киосками, сейчас руководят модными магазинами».

Многие «новые русские», особенно те, кто связан с организованной преступностью, часто швыряют деньги продавцу и угрожают менеджерам, если не могут тут же купить норковую шубу нужного размера или цвета. Но, утверждает старшая официантка ресторана 24-летняя Светлана Кичекова, некоторые из «новых русских» становятся чуть более вежливыми.

«В прошлом году они угрожали убить меня по крайней мере три раза в день, если я не сажала их немедленно, без очереди, --говорит она. -- Сейчас они делают такие угрозы только три раза в неделю».

**Газета «Ю-эс-эй» (США)**

## Пісталетная справа

Мікола Капыловіч

# «Начны мэр»

## (нататкі вартаўніка)

Каб сабраць цікавы матэрыял для «Начнога мэра», я, як ужо раней пісаў, часта адлучаюся ў вёску. А калі не выпадае туды паехаць, заўсёды іду на наш маладзечанскі рынак. Там і знаходжу цікавыя факты і дэталі для сваіх запісаў. А калі не знаходжу, сам правакую нестандартныя жыццёвыя сітуацыі. Так было і на гэты раз.

Каля брамы рынка, заўважыў я, кожны дзень з раніцы да вечара таўкуцца мянялы, тыя маладыя хлопцы ў скуранках, якія мяняюць з наварам для сябе даляры, маркі, расійскія рублі на нашыя «зайцы» і -- наадварот. І раптам у маю галаву ўкінулася авантурная думка: дай, прапаную ім купіць пісталет, якога ў мяне няма і ніколі не магло быць. Цікава, думаю, будзе паглядзець, як яны адрэагуюць на маю прапанову. А ў тое, што мянялам закарціць купіць пісталет, я не сумняваўся, бо хлопцы былі грашавітыя, мільёнамі варочалі. І, каб гэтыя мільёны надзейна ахоўваць ад рабаўнікоў, абавязкова трэба мець зброю.

Падышоў да аднаго, у спартыўнай шапачцы, адвёў яго ўбок.

-- Макарава прадам, -- ціха шапнуў яму на вуха.

Той спярша атарапеў ад маёй прапановы, потым, зірнуўшы па баках, таксама ціхенька спытаў:

-- Дзе ён? У цябе?

--Не, дома, -- шапчу яму. -- Калі купіш, прынясу. Я недалёка жыву.

Хлопец падумаў, памуляўся:

-- Я спярша са сваімі хлопцамі параюся, а ты ідзі па пісталет. Праз гадзіну каб тут быў.

Пакруціўся я па горадзе і праз гадзіну зноў вярнуўся на рынак, каб сказаць мянялам: перадумаў, маўляў, прадаваць пісталет. Сказаць, што пажартаваў, пабаяўся -- у карак яшчэ дадуць. Падышоў і адразу заўважыў, што мянял за гэты час каля брамы надта шмат назбіралася. Цэлы гурт стаіць -- чакаюць мяне. Той, што ў спартыўнай шапачцы, наблізіўся да мяне, асцярожна ўзяў пад руку і падвёў да двух высокіх мардавbabаротаў.

-- Вось, яны купяць.

І не паспеў я нешта ўцяміць, як мае рукі ў момант былі заламаны за спіну і на іх зашчоўкнуліся наручнікі. Мардавароты абмацалі мяне з ног да галавы і запіхнулі на заднее сядзенне легкавіка. Самі селі па баках. Машына рванула наперад. І толькі тут мяне праняў страх. Па спіне папоўз холад. Паспрабаваў было паварушыць за спіною рукамі -- у запясце рэзануў пякучы боль, нібы яны трапілі ў пашчу кракадзіла. Усё, думаю, капец. Завязуць у лес і заб'юць, як сабаку. Даскакаўся, дагуляўся са сваімі пісьменніцкімі выдумкамі. І тут раптам бачу: машына рэзка крутнула на вуліцу Галіцкага і спынілася каля міліцыі. Мардавароты ўчэпіста выцягнулі мяне за каўнер з легкавіка і паявілі ў будынак. І я апынуўся ў міліцэйскай дзяжурцы. Дзяжурны маёр з палкім позіркам зірнуў на мяне:

-- Прозвішча,імя і па бацьку?

Я назваў.

-- Дзе жывеш?

-- На Вялікім гасцінцы, дом 74, кватэра 12.

-- Кім робіш?

-- Пісьменнікам і вартаўніком.

Маёр перастаў суладаць пратакол, падняў вочы і перапытаў:

-- Як гэта зразумець: пісьменнікам і вартаўніком?

-- Вельмі проста: пішу як пісьменнік, а вартую як вартаўнік.

-- Ты што -- таго? -- крутнуў ён пальцам каля сваёй галавы. -- Дзе гэта бачна, каб пісьменнік вартаўніком рабіў? Ты што, дурнем прыкідваешся? Дык мы тваю дурасць з галавы выб'ем. У псіхушку адтарабанім. Там табе мазгі ўправяць.

-- Праверце.

-- Праверым! -- ён яшчэ раз пільна паглядзеў мне ў вочы, шукаючы ў іх прыкметы вар'яцтва. -- У камеру яго! І вобыск яшчэ раз зрабіце.

Нарэшце наручнікі выпусцілі са сваіх жалезных шчэлепаў мае рукі -- іх разамкнуў за спінаю сяржант, мяне распранулі і пачалі абмацваць вопратку. Міліцыянеры перабралі ў пальцах кожнае шво, абмацалі кожны рубец на маіх штанах і пінжаку, у чаравіках выдзерлі высцілкі -- шукалі, няйначай, грошы, але нічога, акрамя вартаўніцкіх ключоў, не знайшлі. Дазволілі апрануцца і насунулі на ногі абутак. Потым упіхнулі ў камеру. Мае вочы доўга не маглі прывыкнуць да цемры, а калі прывыклі, у куце гэтага адстойніка, падобнага на катух, у якім у вёсцы трымаюць свіней, заўважыў старога чалавека, які сядзеў на кукішках і горка плакаў.

-- Забойца,забойца я! -- галасіў чалавек. -- Суседа забіў. Што ж мне цяпер будзе?! Расстраляюць. Якая ганьба для дзяцей! Іхні бацька -- забойца! Яны ж усе вучоныя ў мяне, настаўнікі і інжынеры... Каб мае рукі адсохлі ў той час, калі я тое палена ў рукі ўзяў, каб мне вочы вылезлі, калі я таго Сымона ўбачыў.

Чалавек галасіў так горасна і адчайна, што мая выхадка з неіснуючым пісталетам, з-за якой я трапіў у міліцыю, падалася мне зараз сапраўды вар'яцкай авантурай, нейкай недарэчнай і дзіцячай. І мае непрыемнасці аніяк нельга было параўнаць з няшчасцем гэтага старога.

-- Дык што здарылася? -- нахіліўся я над старым.

-- Сусед мой, Сымон, ноччу качаны на маім агародзе рэзаў. Падпільнаваў яго і стукнуў паленам па галаве. А ён узяў ды і памёр у разоры. Хацеў яго напалохаць, а цяпер выходзіць, што забіў...

Я пачаў суцяшаць старога вяскоўца і на нейкі час забыў пра свае непрыемнасці. Толькі падумаў, што пасадзяць на пятнаццаць сутак за дурны жарт, калі псіхіятры разбяруцца, што я нармальны на галаву чалавек. Абяцаў жа маёр у псіхушку адправіць на праверку.

Мае невясёлыя думкі перапыніў сяржант, які адчыніў адстойнік і загадаў ісці мне на другі паверх, заклаўшы рукі за спіну.

Я спыніўся ў кабінеце начальніка міліцыі. Страх зноў вярнуўся ў маё дрыготкае цела, калі я зірнуў на тоўстыя кулакі падпалкоўніка, якія нецярпліва ляжалі перада мною на стале.

-- Дык дзе ўсё ж пісталет?

-- Няма яго ў мяне, -- апусціў я галаву. -- Гэта прыдумаў я... для сюжэта.

-- А калі зробім у тваёй кватэры вобыск і знойдзем яго, што тады?

-- Шукайце.

-- Пашукаць мы паспеем, лепш сам здай.

-- Кажу ж, пажартаваў я.

-- Аддасі -- нічога табе не будзе, -- настойваў начальнік міліцыі. -- Цяпер багата хто ўзбройваецца, каб бараніцца ад бандытаў. Кожны бізнесмен штуку мае. Жанчыны таксама газавымі пісталетамі ўзбройваюцца. Дык чаму ж тады не мець зброі пісьменніку, каб абараніць сваё патрэбнае для народа жыццё, --ён памаўчаў, пацісну́ў на стале кулакі. -- Мы праверылі ўсю тваю анкету, нават у Мінск званілі. Сапраўды, ты лічышся пісьменнікам. Быў нават ліквідатарам у Брагіне. Там, няйначай, і дастаў у ваенных пісталет. А цяпер вырашыў прадаць, каб гэтае... -- Начальнік пстрыкнуў сябе па кадыку. -- Ведаю, што ўкінуць у страўнік ты надта любіш, не раз з-за гэтага ў цябе былі непрыемнасці ў міліцыі. Вось і сёння захацеў глынуць, а грошай няма. Цяпер жа ганарары плацяць як адступное. Сам у раёнцы друкуюся, ведаю. І на вартаўніцкі заробак не разгонішся: вось і вырашыў... Так што адразу прызнавайся, дзе хаваеш пісталет. Аформіім як добраахвотную здачу зброі і -- справе канец. Дамовіліся?

Начальнік гаварыў так сардэчна і шчыра, што я, калі б меў такую магчымасць, не толькі аддаў бы яму пісталет, але нават прыкацій бы ў міліцыю, здаецца, гармату.

-- Ну, дык -- лады? -- стаяў на сваім падпалкоўнік.

Злосць, нарэшце, ускіпела ў маіх жылах, і я не вытрымаў:

-- Я пратэстую! Прашу выклікаць пракурора!

Мой адчайны крык ніяк не падзейнічаў на начальніка міліцыі! Ён крыва ўсміхнуўся, убачыўшы маю бездапаможнасць, выняў са шуфляды стала куцую паперку, на якой стаяла пячатка:

-- Пракурор ужо ведае, што ты хаваеш пісталет, і вось выпісаў ордэр на вобыск у тваёй кватэры, давядзецца яго рабіць.

Мяне вывелі на двор і запіхнулі ў машыну, цяпер ужо ў задняя дзверцы «варанка». Неўзабаве ён падкаціў пад самы пад'езд, у якім была мая кватэра. На лаўцы сядзелі і гаманілі бабулькі, і калі міліцыянеры высадзілі мяне з машыны, пенсіянеркі надта здзівіліся і спыталі ў іх:

--Што такое наш пісьменнік натварыў?

-- Ён мае пісталет, -- адказаў сяржант, які ступаў ззаду мяне. -- Хацеў прадаць на рынку.

І вось мы -- ў кватэры. У панятыя паклікалі суседзяў па лесвічнай пляцоўцы, бяззубага старога Франка і разведзёнку Валю. Яны сталі каля дзвярэй і моўчкі глядзелі, як два следчыя пeратрасаюць у шафе маю бялізну, абстукваюць сцены, адсоўваюць мэблю.

Першым не вытрымаў Франак.

-- Не шмаяшце людзей, -- зашамкаў ён сваім бяззубым ротам.--Ніякага пішталета ў яго няма.А калі б і быў, дык ён не ведае, з якога боку яго заражаць.

-- Ён і страляць не ўмее, -- пацвердзіла і Валя. -- Ні разу не чулі, каб хоць раз у пад'ездзе стрэліў.

Але следчыя не звярнулі на іх словы ніякай увагі, адвінцілі заднюю крышку тэлевізара, зазірнулі ў яго нутро, не абмінулі халадзільнік, буфет і, калі нічога ў кватэры не знайшлі, павялі мяне ў падвал, каб адамкнуў свой катушок, у якім ляжала бульба. Пераляпацілі яе, плюнулі ад злосці, вылезлі з падвала і паехалі, пакінуўшы мяне дома.

З таго часу мінуў год. Я не толькі пісаць, але і расказваць людзям саромеюся пра гэтую сваю «пісталетную» справу, якую хацелі мне прышыць у міліцыі. І паступова, з дня на дзень, мабыць, і забыў бы пра яе, калі б не бабулькі. Яны, калі я вяртаюся з горада дамоў, здалёк прыкмячаюць маю постаць, здымаюцца з лаўкі і хаваюцца ў сваіх кватэрах. Баяцца, каб не застрэліў.

# Вясновы настрой

*-- Абуджаюцца рэкі,*
*Прачынаюцца дрэвы,*
*І чакае дзятва*
*Гаманлівых шпакоў...*

**Фота Яўгена Пясецкага**








ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## З гісторыі «летняга часу»

Тое, што парыжане любяць паляжаць у ложку да адзінаццаці, а то і да поўдня, першым заўважыў Бенджамін Франклін, які быў у 1784 годзе паслом ЗША ў Францыі. Заадно ў сваім жартаўлівым пісьме, накіраваным у «Журналь дэ Пары», ён адзначыў, што калі б парыжскія «соні» адкрывалі аканіцы і тушылі святло на світанку, то за тры летнія месяцы яны толькі на стэарыне і воску сэканомілі б мільёны франкаў.

Пасля Бенджаміна Франкліна за перавод гадзіннікавых стрэлак на восемдзесят мінут наперад кожнае лета выступіў у 1907 годзе англійскі прадпрымальнік Уільям Уілет. Ён нават згадзіўся фінансаваць гэтую кампанію, таму што, пакончыўшы, паводле яго слоў, з разбазарваннем дзённага святла, толькі на асвятленні можна сэканоміць суму, дастатковую для таго, каб пагасіць агульны нацыянальны доўг краіны. Акрамя таго, меркаваў Уілет, увядзенне «летняга часу» будзе садзейнічаць скарачэнню спажывання алкаголю і змяншэнню злачыннасці.

Нягледзячы на тое, што яго прапановы былі грунтоўна аргументаваны, у англійскім парламенце, дзе абмяркоўвалася пытанне, ён не атрымаў дружнай падтрымкі. Фермеры, напрыклад, сцвярджалі, што каровы, калі іх даіць раней, стануць менш даваць малака, а з-за расы цяжка будзе весці ўборку сена.

Аднак першая сусветная вайна адкінула ўсе довады апазіцыі --трэба было эканоміць вугаль, газ, нафту. І вось у 1915 годзе Германія, у 1916 -- Велікабрытанія і Францыя, а ў 1917 годзе і ЗША ўстанаўліваюць у сябе «летні час». Працягласць яго была розная. У Францыі, напрыклад, ен уводзіўся з апошняй суботы сакавіка, у Англіі -- з трэцяй нядзелі красавіка, хоць вярталіся да «зімовага часу» у абедзвюх краінах у адзін і той жа дзень -- апошнюю суботу кастрычніка.

З цягам часу электрычнасць выцесніла газ, хоць гэта не азначала адмену саміх крыніц энергіі -- вугалю і нафты. Іх патрабавалася ўсё больш. Таму ў 1939 годзе ў Францыі вырашылі прадоўжыць «летні час» да 18 лістапада,а ў наступным годзе ўвялі яго на месяц раней, да чаго далучыліся і англічане. Восенню 1940 года «летні час» наогул забыліся адмяніць: жылі па ім і зімой. Гітлераўцы, якія акупіравалі Францыю ў 1941 годзе, устанавілі тут «нямецкі летні час», па якому да 1944 года, падпарадкоўваючыся эканамічным і стратэгічным меркаванням, вымушаны былі жыць і ў Англіі. Гэты зрух у часе раўняўся прыкладна дзвюм гадзінам.

З лютага 1942 года па верасень 1945 года /чаму ён і называўся «ваенным»/ «летні час» дзейнічаў круглы год і ў Злучаных Штатах Амерыкі.

Пасля вайны амаль усе краіны, за выключэннем Італіі, адмовіліся ад прынцыпу «летняга часу». Да яе было далучылася Англія, але ў 1968 годзе адышла і яна.

Вярнуцца да старой ідэі -- эканоміць энергію за кошт увядзення «летняга часу» -- капіталістычныя краіны прымусіў нафтавы крызіс 1973 - 1974 гг., у выніку якога цэны на «чорнае золата» падскочылі ў чатыры разы. У Францыі вучоныя падлічылі, што за кошт гэтай простай меры можна зберагчы столькі энергіі, што яе хопіць, каб абагрэць горад з паўмільённым насельніцтвам на працягу ўсёй зімы. Дэкрэтам ад 16 верасня 1975 года ў краіне быў уведзены так званы «жыскараўскі час». Праўда, задавальняў ён далёка не ўсіх і ў самой Францыі. Упраўленню чыгунак, напрыклад, прыйшлося весці складаныя перагаворы са сваімі партнёрамі ў іншых краінах, каб скаардынаваць рух паяздоў, скласці дакладны расклад.

Інтарэсы эканоміі, аднак, прымусілі ўспомніць «летні час» і суседзяў Францыі, хоць для таго, каб прыйсці да ўзаемнай згоды па гэтаму пытанню, ім запатрабавалася пяць гадоў.

**Валерый ВАСІЛЕЎСКІ, інвалід 1-й гр., г.п.Глуск**

СПРАВОЧНАЯ НАШЕЙ ГАЗЕТЫ

## БУДЕТ И «ПОЧТА ПОЛЕВАЯ»

*Прочитала в «Нашей доле» заметку «Где ты, почта полевая»? В ней говорится о том, что по решению Кабинета Министров Республики Беларусь все участники Великой Отечественной войны будут обеспечены тремя бесплатными конвертами для пересылки поздравлений ко Дню Победы. Хотелось бы знать, кто и где будет выдавать эти конверты?*

**Н.С.МЕЛЬЧАКОВА, г.Минск**

По предварительным данным, как сообщили нам в Министерстве связи и информатики Республики Беларусь, эти конверты, отпечатанные, кстати, в России, будут выдаваться в военкоматах по месту жительства участников Великой Отечественной войны вместе с наградами и денежными пособиями. Предполагается осуществить их выдачу с 15 по 30 апреля 1995 года.

## Ответы на кроссворд, опубликованный в N 14

**По горизонтали:**

*5.Рысак.6.Дукат.8.Орда.9.Мочка.11.Крез.13.Бес.15.Партер.17.Фронда.18.Кок.19.Чум.20.Вершок.23.Тирада.25.Паж.27.Купе.28.Ларец.29.Обод.32.Яства.33.Тракт.*

**По вертикали:**

*1.Наст.2.Микроб.3.Кодекс.4.Пакт.5.Радар.7.Таран.10.Чек.12.Бекон.14.Армия.16.Рок.17.Фут.21.Рупия.22.Пар.24.Аббат.25.Панама.26.Жертва.30.Штоф.31.Саго.*

### ПРОГРАММА МИНСКОГО КАБЕЛЬНОГО ТЕЛЕВИДЕНИЯ с 17 апреля по 23 апреля

**Понедельник, 17 апреля**
9.30STV 11.15Х/ф «С пистолетом наголо-3» (комедия) 12.40STV 19.05"Репортаж» 19.15Мультфильмы 19.35Х/ф «Легенда севера» (приключения) 21.10"Городские часы» 21.25Анонс 21.40Х/ф «Кронос» (ужас) 23.10Ночная программа 23.25STV

**Вторник, 18 апреля**
9.30STV 11.10Х/ф «Легенда севера» 12.45STV 19.05"Спортсекрет» 19.25Мультфильмы 19.45Х/ф «Инцидент в Десепшен Ридж»(остросюжетный) 21.15Анонс 21.30Х/ф «А мне там нравится» (комедия) 23.15Ночная программа 23.30STV

**Среда, 19 апреля**
9.30STV 11.15Х/ф «Инцидент в Десепшен Ридж» 12.45STV 19.05"К сведению» 19.25"Риддлер» (мультфильм) 20.10Х/ф «Добро пожаловать в «Рай»» (комедия) 21.40"Городские часы» 21.55Анонс 22.05На экране - боевик 23.35Ночная программа 23.50STV

**Четверг, 20 апреля**
9.30STV 11.10Х/ф «Добро пожаловать в «Рай»» 12.40STV 13.30Х/ф «Забавы молодых» 14.55STV 19.05"Приключения Халка Хогана» (мультфильм) 20.25"Дилижанс» 20.40Анонс 20.50Оскар-95: «Эд Вуд» (ретро-фильм) 22.55"кабинет» 23.15STV

**Пятница, 21 апреля**
9.30STV 11.15Оскар-95: «Эд Вуд» (ретро-фильм) 13.20Видеоклипы 13.30Х/ф «Золотая баба» (приключения) 14.45STV 19.05Клип-коктейль 19.25"Гуффи» (мультфильм) 19.45Дж.Дэвис и М.Китон в комедии «Нет слов» 21.20"Городские часы» 21.35"7 минут с «Христофором» 21.55"Фатерлянд» («Отчизна») историческая фантасмагория 23.40STV

**Суббота, 22 апреля**
9.30STV 11.10х/ф «Нет слов» 12.45STV 18.05Foxy Mix 19.40Х/ф «Эволвер» (фантастический боевик) 21.15Новый художественный фильм 23.00Ночная программа 23.15STV

**Воскресенье, 23 апреля**
9.30STV 11.10Х/ф «Эволвер» 12.40STV 19.05"Ля афішы» 19.25"Американские сказки Файвела - 5 « (Мультфильм) 10.15Оскар-95: Джессика Ланж в драме «Синее небо» 21.55"Смейтесь на здоровье!» 22.15Х/ф «Татуировка Терезы» (детектив) 23.50Ночная программа 0.05STV

Программа транслируется из Центральной студии по адресу: ул.К.Маркса, 50 тел. 273-405 (абонентский отдел) 272-803 (рекламный отдел)

### НТВ

**13 апреля**
17.00.Мультфильмы. 17.30.»Вспомним те годы.1962". 18.00,21.00,23.00.Сегодня: 18.35.Такова спортивная жизнь. 19.10.Мир кино.»Кодекс молчания»(США). 21.35.»Полиция Майами.Отдел нравов». 22.30.Времечко. 23.15.Кино не для всех.

**14 апреля**
17.00.Мультфильмы. 17.30.»Великолепная семерка». 18.00,21.00,23.00.Сегодня. 18.35.Футбольный клуб. 19.15.Наше старое кино.»Человек-амфибия». 21.35.»Полиция Майами.Отдел нравов». 22.30.Времечко. 23.15.Мир кино.»Богатые, очень богатые... На самом деле в од-них трусах».

**15 апреля**
17.00.Мультсериалы. 18.00.Сегодня. 18.35.»Ключи от форта Байярд». 20.00.»Тот, кто звонит в полночь». 21.00.Намедни. 21.45.Куклы. 22.00.Мир кино.»Парк Горького»(США). 0.10.Третий глаз.

**16 апреля**
17.00.Мультсериал. 17.30.»Сто к одному». 18.00.Сегодня. 18.30.РЕН-TV представляет:»Дог-шоу». 19.00.»Самые громкие преступления XX века». 20.00.Итоги. 21.10.Премия «Оскар».»Возвращение домой»(США). 23.25.Лучшие цирки мира.

